

# НАША СЛОВА

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 30 (617) 13 ЖНІЎНЯ 2003 г.

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

У сувязі з Вашым пісьмом на імя начальніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта І. А. Карэнды Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

Як вядома, вызначэнне мовы навучання ў той ці іншай навучальнай установе знаходзіцца ў кампетэнцыі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. У межах сваёй кампетэнцыі Міністэрства адукацыі сістэматычна рэкамендуе ўпраўленням і аддзелам адукацыі аблрайгарвыканкамаў прымаць неабходныя меры па выкананні ведамаснай праграмы, стварэнні рэальных умоў для забеспячэння гарантаванага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь права выбару мовы навучання. Гэтаму пытанню была нададзена ўвага на выніковай калегіі Міністэрства адукацыі за мінулы навучальны год. Праблемы навучання на беларускай мове будуць абмеркаваны падчас правядзення жнівеньскіх нарад педагагічнай грамадскасці.

**Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі У. К. Шчэрба.**

## ВІНШУЕМ СЯБРОЎ ТБМ, ЯКІЯ НАРАДЗІЛІСЯ Ў ЖНІЎНІ

Косінец Анатоль
Трусаў Алег Анатолевіч
Барадзіна Інга Мікалаеўна
Арлоў Уладзімір Алякс.
Вячорка Аляўціна Сямён.
Макарэвіч Віталь Сяргеев.
Бураўкін Генадзь Мікал.
Бранішэўская Света
Марачкіна Ірына Сярг.
Цімашэвіч Уладзімір Макс.
Брыль Янка
Чэчат Алесь Віктаравіч
Мальдзіс Адам Восіпавіч
Варапееў Уладзімір
Антановіч Кастусь Уладз.
Пятровіч Ева
Сак Міхал Міхалавіч
Супрановіч Віталь Канст.
Гядрэвіч Валянціна
Самайлюк Т.

*Сакратарыят ТБМ.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Алена Кобец-Філімонава – 5000 р., г. Менск.
2. Скрэчка Анатоль Васілевіч – 5000 р., г. Менск.
3. Бубейка Я. І. – 5000 р., г. Горадня.
4. Кудравец Веранiка – 5000 р., г. Менск.
5. Петруковіч Васіль – 10000 р., г. Менск.
6. Казлоўская І. І. - 1200 р., г. Менск.
7. Хацяноўская Н. – 5000 р., г. Менск.
8. Алесь Пархоменка – 2000 р., г. Мазыр
9. Надзея Барт-Юрэвіч – 50 дол., Германія.
10. Беларускае выдавецкае таварыства – 5000 р.
11. Санько В. А. – 5000 р. Г. Менск

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні, | на дзейнасць. | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

# ВЯРТАННЕ ЯНКІ БЫЛІНЫ

9-10 жніўня 2003 года на тэрыторыі Спондаўскага сельсавета Астравецкага раёна ГА "Вільняр" зладзіла Першыя краязнаўча-літаратурныя чытанні, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння паэта, байкапісца, драматурга, аўтара і перакладчыка рэлігійных твораў святара Яна Семашкевіча (Янкі Быліны). Паралельна тут жа праходзіў плянэр з беларускімі мастакамі, прысвечаны таксама 120-годдзю Янкі Быліны.

Чытанні сабралі краязнаўцаў, знаўцаў і прыхільнікаў творчасці Янкі Быліны з Менска, Вільні, Беластока, Лондана, Маладзечна, Ліды, Мядзельскага раёна, Астраўца, Варнянаў, ды бліжніх ваколіц: Спондаў, Масцянаў, Клюшчанаў, Лакцянаў.

Як і ўсякая добрая справа, чытанні пачаліся з імшы ў Клюшчанскім парафіяльным касцёле ў памяць Янкі Быліны.

Пасля імшы адбылося адкрыццё і асвячэнне памятнага каменя да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Быліны ў двары Клюшчанскага касцёла, ахвяраванага лідскім скульптарам Рычардам Грушам, для якога матэрыяльнае ўвасабленне гістарычнай памяці беларускага народа стала ўжо сэнсам творчасці і самога жыцця.

Па асвячэнні каменя ўдзельнікі чытанняў накіраваліся на клюшчанскія могілкі, дзе пасля малітвы адбылося ўскладанне кветак да сямейнага помніка Семашкевічаў.

• *(Працяг на ст. 3.)*



**Першы жывапісны партрэт Янкі Быліны, створаны падчас плянэру 8.08.2003 г. вядомым мастаком Алесем Пушкіным. Друкуецца ўпершыню.**



**Клюшчанскі касцёл, у якім хрысцілі Яна Семашкевіча (Янку Быліну) і ў якім ён правёў сваю першую імшу.**



**Памятны камень да 120-годдзя Янкі Быліны, устаноўлены ў двары Клюшчанскага касцёла 9.08.2003 г. Камень падараваны лідскім скульптарам Рычардам Грушам.**

***Надпіс на камені: "Беларускі святар і паэт Янка Быліна (Ян Семашкевіч) у гонар 120 - годдзя з дня нараджэння ў вёсцы Лакцяны".***





# Працаўнік на ніве беларушчыны

Калі б не буйныя, паваротныя перамены, што адбыліся ў грамадскім жыцці краіны на мяжы 80-90-х гадоў мінулага стагоддзя, Андрэй Андрэевіч Юшкевіч так бы і застаўся шарагавым настаўнікам Галавацкай сярэдняй школы, што ў Гарадзенскім раёне. З захапленнем рашаў бы задачы, праводзіў урокі. Яго цанілі вучні і іх бацькі, адчуваючы ў ім прыроджанага Настаўніка, які любіць і паважае дзяцей. Ён не крычаў і не лаяўся на іх, а звяртаўся да іх розуму, да сумлення, спачуваў пры здзейсненні кім-небудзь дрэннага ўчынку, імкнучыся абудзіць пачуцці дабрыні і справядлівасці. Дзеці разумелі яго і адносіліся з павагай.

Дасягнуўшы пэўных гадоў, ён з чыстым сумленнем жыў бы ў Галавачах на свае сціплыя пенсійныя 120 руб.

Але наступіўшая ў краіне перабудова карэнным чынам змяніла думкі, планы і паводзіны Андрэя Андрэевіча. Сваёй адкрытай душой ён адчуў перамены, што наступалі ў грамадстве. Не, ён не здрадзіў сваёй любімай матэматыцы, але зразумеў, што ёю абмяжоўвацца нельга, калі абуджаецца драмаўшы дагэтуль народ, і з усёй энергіяй уключыўся ў адраджэнцкі працэс, што набіраў сілу ў краіне. Ён быў сярод заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы ў раёне і з першых гадоў – сябрам раённай рады, актыўна ўдзельнічаў у рабоце арганізацыі.

Андрэй Андрэевіч не вагаўся пры вызначэнні, на якой мове працаваць ў школе, і хутка перайшоў на карыстанне беларускай мовай, падаючы прыклад сваім калегам. Яго вельмі турбавала, што працэс адраджэння беларускай мовы і нацыянальнай культуры марудна рухаецца ў раёне, што чыноўніцтва з аглядкай адносіцца да выканання Закона аб мовах.

На раённых канферэнцыях Таварыства, на паседжанні "круглага стала" з удзелам старшыні райвыканкама Алізаровіча Р.А. ён гаварыў, што прамаруджванне ў беларусізацыі звязана з няведаннем многімі кіраўнікамі раённых служб, сельскіх саветаў, прадпрыемстваў беларускай мовы, культуры і гісторыі, упіраецца ў нацыянальны нігілізм.

Выконваючы рашэнні Таварыства аб прапагандзе роднай мовы і культуры ён ідзе і едзе ў школы працоўныя калектывы, каб расказаць аб багатай гісторыі і культурнай спадчыне нашага народа. Такія яго выступленні адбыліся ў Абухаўскай, Парэцкай, Скрыбаўскай і і ншых школах, у Скідзельскім СПТВ № 199, на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, у санаторыі "Парэчча" перад яго супрацоўнікамі і адпачываючымі. Сустрэчы заўсёды выклікалі цікаўнасць у прысутных яшчэ і таму, што Андрэй Андрэевіч выкарыстоўваў створаныя ім самім відэафільмы.

Работа над відэафільмамі – гэта асобная старонка ў яго працы і занятках. Яго цікавяць і сучасныя культурна-грамадскія падзеі, і культурная спадчына, і вядомыя людзі Гарадзеншчыны.

Ім створаны відэафільмы аб фестывалях нацыянальных культур у Гародні, аб харавой капэле пад кіраўніцтвам Іконнікавай, пра Алеся Белакоза і яго народны музей, візіт патрыярха Алексія ІІ у Гародню, калядны канцэрт Данчыка ў нашым горадзе, фестываль беларускага фальклору ў Скідзелі, сустрэчы з беларускім пісьменнікамі на Гарадзенскай зямлі (у сувязі з 200-мі ўгодкамі А. Міцкевіча). Будучы дэлегатам V з'езду ТБМ імя Ф. Скарыны, ён стварыў фільм аб яго рабоце і дэманстраваў на раённай канферэнцыі. Няма магчымасці пераказаць усе яго фільмы і падрыхтаваныя матэрыялы. Андрэй Андрэевіч інтэнсіўна заняўся гэтай справай пасля антыбеларускага рэферэндуму 1995 г., які палажыў пачатак новаму наступу на беларускую мову і ўсё беларускае. Ён адчуў патрэбу зрабіць магчымае па захаванні здабыткаў нацыянальнай культуры. У яго сабрана звыш 20 відэафільмаў і матэрыялаў, таму што ён верыць, што застанецца не толькі напісанае, але і знятае, што яно паслужыць адраджэнню беларушчыны.

У тым, што беларускае слова, нашы нацыянальныя песні, танцы, традыцыі будуць запатрабаваны, ён упэўнены, калі назірае, як абыякава, фармальна праходзяць многія вечары – дыскатэкі ў мясцовым клубе, школе. Бездухоўнасць, пагарджанне сваім, родным у песнях, танцах, мове, гісторыі яго моцна турбуюць. З хваляваннем ён дзеліцца сваім роздумам:

- Наша роднае, нацыянальнае абавязкова будзе запатрабавана. Гляньце на дыскатэкі. Ні аднаго беларускага слова, прыгожага танца. Пануе расійская папса. А моладзь пад грукат з дынамікаў то ламацца, то дранцвее ў крузе. Ёсць жа прыгожыя і сучасныя, і бальныя танцы, ёсць чароўныя беларускія песні, цікавыя гульні. Толькі няма каму паказаць гэта, навучыць. Чаго тут больш – абыякавасці ці свядомага ўціску? І каго мы выхоўваем?

Свае думкі аб выцясненні беларускай мовы з сферы адукацыі, навукі, грамадскага жыцця, аб занядбанне беларускай культуры, аб скажэнні сапраўднай нашай гісторыі ён выказвае у выступленнях па радыё і ў друку, імкнучыся дастукацца да свядомасці суайчыннікаў, абудзіць нацыянальную годнасць.

- Хоць даўно пайшоў я са школы, але і цяпер адчуваю сябе настаўнікам. Цягне сустрэцца з дзецьмі, з былымі сваімі вучнямі. Кажу свім маладым вяскоўцам: прыходзьце да мяне, паглядзіце, можа, што карыснае ўбачыце Пагутарым і мёдам пачастуемся, – расказвае Андрэй Андрэевіч.

Усе свае надзеі ён звязвае з моладдю, з падрастаючым пакаленнем. Ён нагадвае, як у 20-30 –я гады ХХ ст. вучылі ў польскіх школах беларускіх дзетак. Яны яшчэ дрэнна чыталі і пісалі, але павінны былі ўсведамляць сваю польскасць і шпарка адказваць.

- Хто ты естэсь? – пытаў настаўнік.

- Поляк малы! –адказваў маленькі несвядомы беларус.

- Цо ест знак твуй?

- Ожэл бялы!

- Дзе ты мешкаш?

- В польскай зэмі!

Тое ж у адносінах да беларуса, гаворыць Андрэй Андрэевіч, назіраецца і цяпер, толькі гнуць яго ўжо ў расійскі бок. У школе і царкве, па тэлебачанні і радыё ўбіваюць у галаву, што мы – адзін народ, што ў нас адна гісторыя, і падмацоўваюць гэта кожнай песняй, кінастужкай, кнігай. Таму і ўспамінаюцца словы знакамітага беларуса – адраджэнца Вацлава Ластоўскага з яго нататкі "Што трэба ведаць кожнаму беларусу?"

"- Хто мы?

- Мы – беларусы.

- Чаму мы называемся беларусамі?

- Бо мы нарадзіліся беларусамі, ускармліліся з беларускай зямлі, узгадаваліся і жывём на Беларусі.

- Хто гэта – беларус?

- Беларус той, у чыіх жылах цячэ беларуская кроў, чые прадзеды, дзяды і бацькі былі беларусамі.

- Як называецца той, хто выракаецца свайго народу?

- Той, хто выракаецца свайго народу, - здраднік, душапрадаўца..."

Пры сустрэчы з дзецьмі ў школе ці ў краме, у аўтобусе ці на аўтобусным прыпынку Андрэй Андрэевіч не ўпускае магчымасці пагутарыць з імі аб іх паходжанні, якім народам сябе ўсведамляюць, на якой мове размаўляюць, чаму трэба ганарыцца сваёй беларускасцю.

Сваімі паводзінамі, сваімі справамі даводзіць усім, што ён – шчыры беларус. Калі сустракаешся і гаворыш з гэтым чалавекам, які ўзначальвае суполку Таварыства беларускай мовы ў Галавачах, адчуваеш, як зыходзяць ад яго хвалі дабрыні і спагады, жадання дапамагчы вам, зрабіць карысную справу. І нягледзячы на пенсійныя гады і пахіснуўшаеся здароўе, Андрэй Андрэевіч паранейшаму поўны прамяністай энергіі і жадання паслужыць беларускай справе. Хочацца пажадаць яму добрага плёну ў высакароднай справе.

*І. Буднік, сустаршыня Гарадзенскай раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Мы атрымалі адказ ад кіраўніка дзяржавы

*Мы ўжо не раз звярталіся да кіраўніка сённяшняй Беларусі з прапановай стварыць Беларускі Нацыянальны Універсітэт з беларускай мовай навучання. Раней адказаў проста не было. Але нядаўна на наш апошні ліст, які надрукаваны ў "НС" (гл. № 24, стр.2) прыйшоў адказ падпісаны былым міністрам адукацыі Пятром Брыгадзіным.*

**Старшыні Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя**
**Францішка Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Міністэрства адукацыі ў адказ на Ваш зварот ад 18.06.2003 № 160, накіраваны па даручэнню Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27.06.2003 № 10\535-106 да разгляду, паведамляе наступнае.

У Рэспубліцы Беларусь зараз працуе 44 дзяржаўных і 13 прыватных вышэйшых навучальных устаноў, у якіх па 376 спецыяльнасцях і спецыялізацыях навучаецца звыш 320 тыс. студэнтаў. Стварэнне на сучасным этапе ў краіне новай дзяржаўнай ВНУ не прадстаўляецца магчымым. Патрэбнасць рэспублікі ў спецыялістах з вышэйшай адукацыяй для ўсіх галін народнай гаспадаркі, сацыяльнай сферы, адукацыі і культуры поўнасцю забяспечваецца.

У апаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам аб адукацыі і Законам аб мовах студэнты выбіраюць мову навучання па асабістым жаданні. На шэрагу факультэтаў БДУ, БДПУ імя Макксіма Танка, Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Куляшова, Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта і іншых ВНУ выкладанне вядзецца на беларускай мове. Толькі ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце выдадзена каля 60 падручнікаў, дапаможнікаў, слоўнікаў для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ на беларускай мове.

Міністэрствам адукацыі сумесна з рэктарамі ВНУ будзе і надалей праводзіцца работа па пашырэнні беларускамоўнага выкладання вучэбных дысцыплін.

**Міністр П. І. Брыгадзін.**

*Зыходзячы з тэксту адказу мы заклікаем свядомых беларускіх студэнтаў накіраваць на імя сваіх дэканаў і рэктараў пісьмовыя заявы з патрабаваннем навучацца па-беларуску, асабліва выпускнікоў беларускамоўных школ і класаў. Аб фактах адмовы просім паведамляць у сядзібу ТБМ.*

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

---

*4 жніўня 2003 г. № 186*

**Начальніку Беларускай чыгункі**
**Гапееву В. І.**
**220030, вул. Леніна, 17,**
**г. Мінск**

**Паважаны Васіль Іванавіч!**

На нашыя звароты да Вас, а таксама на звароты соцень беларускіх грамадзян (дарэчы, сумленных падаткаплацельшчыкаў, на грошы якіх і існуе Беларуская чыгунка з усім яе вялікім бюракратычным апаратам), дзе ішла гаворка аб дыскрымінацыі дзяржаўнай беларускай мовы Вамі і Вашымі падначаленымі, мы атрымалі два адказы (ад 30 чэрвеня і 28 ліпеня) за подпісам Вашага першага намесніка сп. У. І. Жарало.

У адказе ад 30 чэрвеня паведамляецца, што беларускія электрацягнікі абсталяваны сістэмай з аўтаматычнай, выключна рускамоўнай інфармацыяй таму, што гэтая праграма распрацавана ў Расіі. Цікава, а на якой мове яна б запрацавала на БЧ, калі б гэтая праграма была зроблена ў Кітаі, тым больш, што самая пашыраная мова ў свеце – кітайская? Чаму ў нашым метро, аўтобусах і тралейбусах у Мінску, Віцебску і Магілёве гучаць абвесткі па-беларуску, а ў электрацягніках гэта рабіць з мая месяца практычна забараняецца? Чаму Вы свядома парушаеце артыкул 50 дзейнай Канстытуцыі і тыя выказванні кіраўніка беларускай дзяржавы, дзе ён клапоціцца аб захаванні нашай роднай мовы, на якой штодня гавораць 3 700 000 чалавек (а гэта колькасць насельніцтва суседняй Літвы!)?

Прывяду некаторыя канкрэтныя прыклады Вашай дзейнасці, накіраваныя на свядомую дыскрымінацыю беларускамоўных грамадзян нашай краіны.

Пачнём з Вашага афіцыйнага канверта. Чамусьці на ім двойчы змешчаны адрас БЧ і прычым двойчы толькі па-руску? У чым жа справа? Хто перашкаджае Вам зрабіць гэта на мове тытульнай нацыі Беларусі? У якасці прыкладу дасылаю Вам афіцыйны канверт Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, дзе ў адрозненне ад кіраўніцтва БЧ паважаюць і шануюць родную мову.

Прыклад другі. Ваш рэкламны буклет, які прадаецца разам з чыгуначнымі білетамі, зроблены таксама за грошы падаткаплацельшчыкаў, у тым ліку і беларускамоўных. Тут Вы пайшлі значна далей і актыўна выкарысталі другую мову. Але замест беларускай – англійскую. Можа, яна стала другой дзяржаўнай мовай на Беларусі? А можа, БЧ збіраецца далучацца да англійскай ці амерыканскай чыгункі?

І такіх прыкладаў мы можам прывесці шмат.

Хачу Вам паведаміць, што спробы змагацца з беларускай мовай існуюць ужо 300 год, але наша мова не памерла і паміраць не збіраецца. Грамадзяне нашай краіны патрабуюць ад Вас павагі да сваёй роднай мовы, і Вы, як дзяржаўны чыноўнік, абавязаны гэта улічваць, альбо Вам і Вашаму першаму намесніку варта знайсці іншую працу, не звязаную з выкарыстаннем адной з самых прыгожых і мілагучных моваў у свеце – беларускай.

Дасылаем Вам чарговыя 20 подпісаў грамадздян Беларусі з патрабаваннем вярнуць дзяржаўную беларускую мову ў нашыя электрацягнікі.

Таксама раім Вам набыць беларускую кампутарную праграму, дзе будзе прысутнічаць такая літара беларускага алфавіту, як "ў".

З павагай,

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**





# “Вольнае вогнішча – 2003”

19 ліпеня ў Бабруйску, на левым узбярэжжы Бярэзіны, у дуброўцы насупраць гарадскога пляжа, адбыўся вялікі творчы фэст беларускамоўнай бардаўскай песні і паэзіі “Вольнае вогнішча – 2003“, арганізаваны Бабруйскай суполкай ТБМ імя Ф. Скарыны пры падтрымцы сяброў БСДП “Народная грамада”. Гэтае “вогнішча” было шостым па ліку і атрымалася рэгіянальным паводле геаграфічнага прадстаўніцтва ўдзельнікаў, бо на фэст прыбылі барды і паэты з Віцебска, Магілёва, Оршы і Бабруйска.

Напачатку гледачоў, якіх прыйшло больш 50-ці чалавек, і ўдзельнікаў фэсту засмуціла тое, што мясціна заўсёднага правядзення “Вольнага вогнішча” была літаральна скрозь усеяна бітымі бутэлькамі. Знайшоўшы непадалёк прыгожую палянку, не кранутую дзікунскім ліхадзействам гома сапіенсаў, было вырашана перамясціцца туды.

Паколькі абрытаная стыхія агню абавязковы атрыбут фэсту, то дзеля гэтага дужэйшая палова занялася збіраннем і нарыхтоўкай дроў лдя вогнішча. А прыгожая палова, тым часам, зладзіла імправізаваную вячэру, на якой змаглі падсілкавацца ўсе, хто пад уздзеяннем свежага паветра ды стомных “дрывочных” высілкаў не здолеў процістаяць спаконіснай прымаўцы: “Голад не цётка, з’ясі, што патрапіць”. А патрапіць было чаму.

Натхняльным зваротам да гледачоў і ўдзельнікаў ад імя арганізатараў – свята беларускага слова і песні адкрыла Святлана Бахманава, а аўтар гэтых радкоў распавёў пра гісторыю “Вольнага вогнішча” і ўмовы правядзення сёлетняга. Затым, па усталяванай традыцыі, бард і паэт з Бабруйска Святлана Чарненка распачала фэст сваёй лірычнай песняй “Крынічка”.

Першай у праграме ішла паэзія. Сярод іншых выступоўцаў найбольш успрынятай прысутнымі была творчасць маладой настаўніцы і літаратара з Магілёва Таццяны Барысік. На чытаныя ёй гумарыстычныя вершы і байкі публіка рэагавала неўтаймоўнай вясёласцю і смехам. Слухаючы Таццяну міжволі думалася пра найяскравейшую праяву класікі жанру.



**Удзельнікі “Вольнага вогнішча-2003” злева направа: В.Маліноўскі, А. Мельнікаў, В. Казанцава, Р. Спасюк.**

Спеўную частку “Вогнішча” сваім дэбютным акордам распачала Людміла Навіцкая з Бабруйска. Пасля Людмілы масцітыя і прызнаныя майстры бардаўскай песні, бабруйчане, Рыгор Спасюк і Святлана Чарненка парадавалі гледачоў сваімі старымі і новымі творамі. Студэнтка тэхналагічнага ўніверсітэта з Віцебска Вольга Казанцава песні піша і выконвае даўно, але паўдзельнічаць у фармаце фестывальнага мерапрыемства вырашыла ўпершыню, прачытаўшы аб’яву пра “Вольнае вогнішча” у “Нашай Ніве”. Вельмі лірычны выгляд Вольгі вабіў прысутных, яе выступу чакалі з нецярплівасцю. І Вольга спраўдзіла гэтыя чаканні. Меладычнасць яе песень, сімвалізм тэкстаў, прыгожы і багаты галасавы дыяпазон кранулі і зачаравалі ўсіх. А Таццяна Арлова з Магілёва хоць сама і не піша песень, затое выконвае іх так, што нават самі аўтары прызнаюць перавагу Таццянінага выканання іх твораў. У гэтым пераканаліся і бабруйчане, асабліва пасля пранікнёнага і анёльскага выканання песні на словы Ларысы Геніюш і музыку Вальжыны Цярэшчанкі “Запяі мне песню”.

Ганаровы госць “Вольнага вогнішча”, яркая зорка беларускай бардаўскай песні, Андрэй Мельнікаў выступаў на фэсце другі раз. Прафесіяналізм і дар таленту ў Андрэя найвышэйшы, а калі яшчэ дадаць тое, як ён дапаўняе гітару трубным акампанементам вуснамі, то нават і ўнікальны. Многія падпявалі Андрэю, а той, хто чуў яго ўпершыню, ашаломлена слухаў і прасіў спяваць і спяваць... Апошнім годна выступіў Яўген Харкін з Бабруйска, ён выканаў дзве песні з рэпертуару “Мроі”.

Як і летась пераможцы на фэсце не вызначаліся, таму кожны з удзельнікаў у абедзвюх намінацыях, па сканчэнншы выступу, цягнуў квіточак з куфэрачка, у кожным з якіх значыўся адпаведны падарунак – кнігі Наталлі Арсенневай, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Дубоўкі, Генадзя Бураўкіна.

Адметнай дэталлю свята сталася наяўнасць на ім прадстаўнікоў з чатырох гарадскіх газет, якія падзяліліся затым сваімі ўражаннямі ад “Вогнішча” на старонках сваіх выданняў. Сярод пачэсных гасцей на фэсце прысутнічала старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ спадарыня Наталля Лебедзева.

Адпалымнеў агонь творчага фэсту “Вольнае вогнішча – 2003”, але непагасным дарам засталася радасць яго цяпла і святла для ўсіх тых, хто судакрануўся з гэтай непаўторнай падзеяй.

*Віктар Маліноўскі,*
*старшыня*
*Бабруйскай суполкі ТБМ*
*імя Ф.Скарыны.*

# ВЯРТАННЕ ЯНКІ БЫЛІНЫ

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

Самі чытанні праходзілі ў Масцянскім клубе. Першае паседжанне мела тэму “Грамадскі чын і літаратурная дзейнасць Янкі Быліны”. Другое паседжанне “Астравеччына - гісторыя краю. Падзеі і асобы” было прысвечана агульным набыткам з гісторыі Астравеччыны



**“Магутны Божа”гучыць на сямейнай магілай Семашкевічаў. На помніку выбіта і імя Яна Семашкевіча, але пахаваны ён у іншым месцы.**

Рэфераты, прысвечаныя Янку Быліну, дзяліліся на дзве плыні: біяграфічныя і літаратурныя, хаця і з узаемнымі пранікненнямі з плыні ў плынь.

Сярод біяграфічных дакладаў асаблівай увагі заслугоўвае даклад Сяржука Вітушкі, дырэктара Віленскага беларускага музея “Янка Быліна ў Лаварышках”. Знойдзены акт прыёму Лаварышскага касцёла ксендзам Янам Семашкевічам, пад якім ад прыхаджан стаіць між іншых подпіс Адама Тарашкевіча, бацькі Браніслава Тарашкевіча. На Лаварышкі прыпадае асноўны этап дзейнасці ксяндза Яна па беларусізацыі касцельнага жыцця, за што ён быў польскімі ўладамі пераведзены на Беласточчыну.



**Выступае Алена Глагоўская**

**Падчас чытанняў. На пярэднім плане сябар рэдкалегіі “Нашага слова” Леакадзія Мілаш з Вільні і Рычард Груша з Ліды**



**Грае цымбалістка Лена Баршчэўская**

Даклад Алены Глагоўскай, доктара палеталогіі, выкладчыка Беластоцкага ўніверсітэта “Янка Быліна на Беласточчыне”, зроблены на выдатнай беларускай мове з ледзь заўважным польскім акцэнтам, у некаторай ступені можна лічыць сенсацыйным. Яна аспрэчыла раней падаваную інфармацыю беларускіх даследчыкаў аб даце смерці і месцы пахавання Янкі Быліны. У якасці доказу прадставіла надмагільны помнік па ксендзу Яну Семашкевічу, які стаіць перад касцёлам парафіі Бомбля (Мар’янова) на Беласточчыне і дзе ўказана дата смерці 18.11.1956 г.

Алена Глагоўская прывяла грунтоўныя доказы, што псеўданім ***Яловец*** у шмат-якіх беларускіх выданнях даваеннай Польшчы належыць Яну Семашкевічу, змена псеўданіму стала вынікам забароны польскіх касцельных уладаў на друк па-беларуску, што тычылася ксяндзоў у першую чаргу.



**Помнік на магіле Янкі Быліны ў Бомблі (Мар’янова) ў Польшчы**

Даследванне літаратурнай спадчыны Янкі Быліны было зроблена ў дакладах Міхася Казлоўскага, галоўнага рэдактара часопіса “Куфэрак Віленшчыны” з Маладзечна, Леакадзіі Мілаш, выкладчыцы беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільні, віца-прэзідэнта Літоўскай асацыяцыі беларусістаў, сябра рэдкалегіі “Нашага слова”, Анатоля Шаршнёва, старшага выкладчыка менскага Інстытута кіравання і прадпрымальніцтва.

Мастацкае аздабленне чытанняў забяспечвала выстава твораў удзельнікаў мастацкага плянэру, а таксама канцэрт мастацкай самадзейнасці тутэйшых артыстаў.

Афіцыйнае святкаванне 120-х угодкаў Янкі Быліны з удзелам дзяржаўных структураў у Астравецкім раёне спланавана на восень.

*Яраслаў Грынкевіч.*

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## *Трагедыя ў дзвюх дзеях*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Каліноўскі.*** Простите меня, я об этом слышал. И сейчас думаю, что при добрых стечениях обстоятельств белорусский главный мятежник вполне мог бы породниться с настоящим русским интеллигентом. И за лекарства спасибо!

***Фавелін*** *(падае руку Каліноўскаму)*. До встречи, Константин Семенович! *(Бярэ пад казырок.)* Честь имею! *(Выходзіць.)*

*Сцэна зацямняецца і зноў асвятляецца. Гучыць жалобная музыка аргана і духоўныя спевы. Відаць, некага адпяваюць у касцёле.*

VII

*Тая ж вязніца. На ложку, засланым коўдрай, на невялікай падушцы пад галавою ляжыць бледны, схуднелы, хворы Каліноўскі. Уваходзіць Фавелін у добрым настроі.*

***Фавелін*** *(з парога)*. Доброе утро, Константин Семенович! И вы в этом сейчас убедитесь. Но прежде всего, как мы себя чувствуем?

***Каліноўскі.*** Спасибо — сносно. На собственном опыте убедился в справедливости библейских слов: или мы едим, то ничего не приобретаем, или мы не едим, то ничего не теряем.

***Фавелін.*** Прекрасно. Но голодовку будем заканчивать. Лосев страшно боится, что вы решили умереть без его помощи, а невесту вашу Марыську уже сегодня кормили по-людски — селедку отменили, а воды, и даже кипяченой, дали столько, сколько я велел. Точнее, я ее сам поил. И мне показалось, что она меня узнала. Полагаю, что она... *(Вымае з кішэні канверт. Каліноўскі рэзка ўстае з ложка. Ад падзення яго ўтрымлівае Фавелін і ўсаджвае на ложак.)* Никаких резких движений! Никаких!..

***Каліноўскі*** *(прачытаўшы запіску, радасна)*. Они прекратили допросы и высылают ее в Тобольскую губернию, туда, куда и родителей. А Людвику вывезли на Рязанщину... Она об этом пишет...

***Фавелін.*** Спасибо вам. Я счастлив, что Людочка жива... И еще одна новость с добрым утром — у Лосева я добился для вас ежедневной прогулки на четверть часа. Марыське шепнул, что сейчас вас выведу. Кстати, ее окно первое слева на втором этаже.

*Каліноўскі таропка намацвае на падаконніку люстэрка і запускае "зайчыка". У вязніцы на сцяне з'яўляецца "зайчык" Марыські. Каліноўскі абапіраецца на Фавеліна, каб разам выйсці на турэмны дворык паміж касцёламі. Але ў вязніцу ўваходзяць Шалгуноў, Сямёнаў і Гогель са сваімі зэдлікамі.*

***Шалгуноў.*** Вы куда?

***Фавелін.*** На прогулку, ваше благородие!

***Шалгуноў.*** Никаких прогулок! Пусть он садится или ложится — продолжим допрос.

***Фавелін.*** Категорически возражаю как врач. Подсудимый не выведен из десятидневной сухой голодовки.

***Гогель.*** Вот мы его и выведем!

*Каліноўскі кладзецца на ложак.*

***Фавелін.*** У меня приказ его высокопревосходительства.

***Шалгуноў.*** У нас — тоже. Освободите помещение, поручик!

***Каліноўскі.*** Ні на адно пытанне адказваць не стану, хоць пагутарыць са старшынём следчай камісіі, як асобай прыватнай, не супраць пры адной умове...

***Шалгуноў*** *(абурана)*. Какой еще "умове"?!

***Каліноўскі.*** Гутарыць згодзен толькі ў прысутнасці доктара, а то, не дай Бог, мяне знячэўку кандрашка схопіць, не здравяваць вам, Павел Міканоравіч, перад яго светласцю графам Мураўёвым. Я ж яму, як і вам, толькі жывым патрэбен.

***Фавелін.*** А я о чем?!

***Каліноўскі.*** Я, паважаны Павел Міканоравіч, наогул маўчаў бы, калі б не зыходзіў з тэзы, што гутарка з разумным чалавекам узаемна ўзбагачае. За сябе ручаюся — доўгатэрміновая галадоўка прыводзіць думкі ў выключную яснасць. Раю паспрабаваць... Не пашкадуеце.

***Шалгуноў*** *(нейкі момант маўчыць, членам камісіі)*. Господа офицеры, вы свободны.

***Гогель.*** А записи?

***Каліноўскі.*** Ніякіх запісаў. Я разлічваю на гутарку чыста асветніцкага характару.

***Шалгуноў.*** Я не возражаю.

*Сямёнаў і Гогель выходзяць.*

***Фавелін.*** Прошу извинить, я должен обеспечить больного и ваше благородие хотя бы свежим воздухом, поскольку необходимая прогулка не состоялась. *(Закутвае Каліноўскага ў коўдру. Выходзіць.)*

*Шалгуноў аглядае вязніцу.*

***Шалгуноў.*** М-да... Условия содержания короля Белорусско-Литовского государства не назовешь соответствующими...

***Каліноўскі.*** Дзякуй за спагаду, Павел Міканоравіч.

***Шалгуноў.*** А вы не теряете присутствие духа...

***Каліноўскі.*** Гэта ўжо прызванне каралёў.

*Шалгуноў падыходзіць да закратаванага акна. У гэты момант яго адчыняе Фавелін. У вязніцу ўрываецца свежае паветра і касцельны звон.*

***Шалгуноў*** *(гледзячы ў акно)*. Прекрасная зимняя погода, а по ком-то звонят колокола.

*Уваходзіць Фавелін, садзіцца на зэдлік, крыху прыкрывае акно.*

***Каліноўскі.*** Разважаючы ў цішыні турмы-кляштара, або пад гукі аргана і духоўныя спевы думаў я і пра ваш, Павел Міканоравіч, галаўны боль у сувязі з маёй асобаю як і пра мае абавязкі перад гісторыяй, да якой лёс мяне прычыніў і пра што я кажу без залішняй сціпласці, бо з паплечнікамі сваімі вымусілі мы аўгусцейшага манарха і яго апрычнікаў па-сапраўднаму здрыгануцца, інакш ён не паднияў бы ў ружжо 6 вайсковых брыгад, 13 дывізій, 34 асобыя палкі ды 24 батальёны ўсіх радоў войска ад артылерыйскіх да казацкіх. Гэтым я і мае паплечнікі і цікавы вам. Вы ад нас чакаеце тлумачэнняў прычын трагедыі Польшчы, Беларусі і Літвы. А самі вы, манархі і слугі манархаў, хіба не бачылі, як выспяваў плод народнага гневу. Ці не бачылі, як ён упаў і скалануў Польшчу?! Як шавяльнулася былое, некалі задушанае вамі, Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Ці вы ўжо не можаце ўцяміць, што менавіта з гэтае прычыны касцы надтачылі коссі косамі гострымі і імя сабе далі "касінеры" і вычын свой, непісьменныя, запісалі на скрыжалях гісторыі сваёй і вашай крывёю. *(Узбуджаны садзіцца на ложку, адпівае вады са шклянкі, якую падае Фавелін.)* Сёння самае памятнае самым старым людзям нашым з былога — гэта як тры рабаўнікі-разбойнікі з вялікіх дарог – Прусія, Аўстрыя ды Расія – тройчы захапілі і тройчы раскрыжавалі канфедэратыўную дзяржаву двух народаў, пазбавілі нас імя ўласнага, з вуснаў дзяцей нашых вырвалі матчыну мову і ўсімі намаганнямі чыноўнікаў, настаўнікаў, папоў спрабавалі пазбавіць іх гістарычнай памяці. *(Закашліваецца. Фавелін зачыняе акно.)* А да гэтага што было?! *(Устае з ложка, прыхінаецца да сцяны.)* Чаму ж вы не пытаецеся, ваша благародзіе, што да гэтага было?! Не як следчы, а проста як адукаваны чалавек, ад якога залежыць лёс многіх светлых розумаў з нашага народа. Дык я вам напомню, калі забыліся ці ўспамінаць не хочаце. Вы ж мяне не судом прысяжных, а ваенна-палявым судзіць будзеце, дык тое, што я тут скажу, лічыце маім апошнім словам. Яго можаце і пераказваць сваім гаспадарам... ці некалі ўнукам-праўнукам. А чаму б і не?..

***Шалгуноў.*** Я вас слушаю... Константин Семенович...

***Каліноўскі.*** Я на гэта і разлічваў. *(Адпівае са шклянкі, ставіць яе на столік.)* Пачынаючы з вялікага князя маскавітаў Васіля і праз усіх Іванаў, Фёдараў ды Барысаў Масковія разам з мангольскаю ардою ды крымскімі татарамі безупынна, дзесяцігоддзямі і стагоддзямі пляжыла, рабавала, бурыла, выпальвала нашы гарады і сёлы, забівала нашых людзей, вывозіла іх у маскоўскую няволю, гандлявала імі як нявольнікамі. А тых, што пакідала на сваёй зямлі, даводзіла непасільнаю працаю да жывёльнага стану, да атупення. "Тишайшай" маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч са шматысячным войскам трынаццаць гадоў запар вынішчаў нас пад корань, ад чаго насельніцтва нашага краю зменшылася больш чым напалову, а палеткі на дзесяцігоддзі зараслі лесам. За што?! Па якому праву?! За якія грахі?!

***Шалгуноў.*** Государь наш защищал свою дедину и отчину в Северо-Западных пределах царства.

***Каліноўскі.*** Ад каго "защищал"? Ад нас саміх?! Масковія не была спадкаемцай Русі Кіеўскай і тым больш княства Полацкага. Нашы галоўныя гарады ўзніклі за 200—300 гадоў раней Масквы. Большасць з іх мела Магдэбурскае права і кіравалася першым у Еўропе зборам законаў — Статутам Вялікага княства Літоўскага, калі Масковія яшчэ каснела ў невуцтве, жорсткасці і маральнай цемры.

***Шалгуноў.*** И Польша, и Великое княство — испокон были российскими землями. И потому мы здесь!

***Каліноўскі.*** Вы, Павел Міканоравіч, не арыгінальныя ў сваіх сцвярджэннях. Расійскія ярыгі ад палітыкі і ўлады задоўга да вас сцвярджалі: "Где российский солдат справил большую или даже малую нужду, там и российские пределы". Нават ваш вялікі "царь-преобразователь не только оправился в наших пределах, а прорубая окно в Европу, вырубил и треть наших людей, противоборствуя Карлу XII!" Прайшоўся алюрам па нашых ды польскіх галовах і геній расійскай вайсковай славы са сваімі цудасілкамі, за што і атрымаў сваё самае высокае званне фельдмаршала. Вайна вашага імператара з імператарам Францыі на нашай тэрыторыі знесла ў магілу чвэрць майго народу.

***Шалгуноў.*** Если бы императору Франции удалось восстановить у вас Великое княство Литовское, вы бы нам, надеюсь, не предъявляли своего счета?

***Каліноўскі.*** Бадай што, не! Потым, чаму вы лічыце што нас павінны "спасать" толькі рускія? Мы і сёння не адмовіліся б ад французскай ці англійскай дапамогі супраць рускіх. Больш за тое, мы на іх разлічвалі.

***Шалгуноў.*** И ошиблись.

***Каліноўскі.*** Нажаль. Бо вы цяпер, як і раней, будзеце карыстацца крывёй і жыццямі нашых рэкрутаў у сваіх бясконцых захопніцкіх войнах і задушэннях "сваіх" непакорных народаў. А наш прыдушаны люд прымусіце карміць, паіць і ўтрымліваць расійскую панскую і вайсковую саранчу, каб зноў давесці яго да атуплення і жывёльнай пакоры.

***Шалгуноў.*** Думаю, что будут приняты все доступные меры, чтобы и косинеры и ингургенты здесь никогда уже не появились.

***Каліноўскі.*** Вядома, Расія не спыніць генацыду і этнацыду супраць рэзервацыі, у якую ператварыла адну з цывілізаваных краін Усходняй Еўропы. І вы б хацелі, каб мы не спадзяваліся на спагаду і дапамогу Еўропы Заходняй?

***Шалгуноў.*** Мы сделаем все необходимое, чтобы в будущем это вам и в голову не приходило.

***Каліноўскі.*** Хто з культурных расійцаў не ведае ашаламляльнае сведчанне генацыду супраць нашага народу ў вобразе "Беларускага раба" з літаграфіі Юзафа Азямблоўскага. Герцан, каментуючы яе ў лісце Боткіну пытаецца, ці ведае ён літаграфію, выкарыстаную Адамам Міцкевічам пры чытанні лекцыі па гісторыі славянскіх народаў у Каледж дэ Франс. "Я на эту картину никогда не мог смотреть без биения сердца, — пісаў вялікі рускі рэвалюцыянер-дэмакрат. — Белорусский мужик, без шапки, обезумевший от страха, нужды и тяжкой работы, руки за поясом, стоит среди поля и как-то косо и безнадежно смотрит вниз. Десять поколений, замученных на барщине, образовали такого парию, его череп сузился, его рост измельчал, его лицо с детства покрылось морщинами, его рот судорожно скривлен, он отвык от слов. Ненависть, смешанная со злобой и стыдом, наполняет мое сердце, — не вытрымлівае Герцэн, — когда я гляжу на этот жестокий упрек, на это "к топору, братцы", представленное с поразительной верностью".

***Шалгуноў.*** Если этот художественный образ и ваши эмоции, с ним связанные, принять за житейскую правду, то позвольте вас спросить, как увязать это деградированное существо, изображенное Оземблоским и воспетое врагом России Герценом, с его возможностями вздыбить в неповиновении Северо-Западную Россию против самой России.

***Каліноўскі.*** Павінен заўважыць, што гэта не толькі арганічна ўвязваецца, але і моцна абнадзейвае на будучае. Беларускі раб, як і сама захопленая, зняволеная, прыніжаная і абражаная Белая Русь, як і Літва ды Польшча, крыху больш, чым за паўстагоддзе прайшла свой пакутны шлях ад здранцвення душы і цела да абуджэння, да адраджэння духу, да нацыянальнага самавызнання і чалавечай годнасці. Даруйце, але я бачу патрэбзу ў тлумачэнні таго, што дэмакраты-рэвалюцыянеры ведаюць як альфабэт.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 08. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1945.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)